*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# ЗВЯЗДА



*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

8 мая 1991 г. СЕРАДА

№ 89 (21617)

Цана 10 кап.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

МІНСК

### СУСТРЭЧА З ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРАМ

Нефармальны і адкрыты характар насіла сустрэча Старшыні Савета Міністраў БССР В. Ф. Кебіча з кіраўнікамі рэспубліканскіх сродкаў масавай інфармацыі. Яна адбылася 6 мая ў Мінску па ініцыятыве кіраўніка беларускага ўрада.

В. Ф. Кебіч цёпла і сардэчна павіншаваў удзельнікаў сустрэчы з іх прафесіянальнымі святамі — днямі друку і радыё, пажадаў творчых поспехаў і выказаў імкненне ўрада працаваць у цесным кантакце са сродкамі масавай інфармацыі.

Ён расказаў аб сацыяльна-эканамічным становішчы ў рэспубліцы, прымаемых урадам мерах па паляпшэнню сітуацыі. Адказаў на зададзеныя пытанні. Былі шчырымі і іншыя члены ўрада — старшыня Дзяржэканомплана С. С. Лінг, старшыня Дзяржкамітэта па знешнеэканамічных сувязях У. В. Радкевіч.

Удзельнікі сустрэчы былі праінфармаваны аб дзеяннях урада, яго бліжэйшых і перспектыўных планах па напаўненню абвешчанага Вярхоўным Саветам суверэнітэту рэспублікі рэальным зместам.

Старшыня Савета Міністраў БССР прадставіў работнікаў створанага нядаўна ва ўрадзе Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей.

(БЕЛТА).

### ХЕЛЬМШТАТ ДАПАМАГАЕ

**СВЕТЛАГОРСК. Дэлегацыя горада пабывала ў ФРГ, дзе быў падпісаны дагавор аб партнёрстве паміж Светлагорскам і Хельмштатам. У час падпісання дагавора (на цырымоніі прысутнічалі генеральны консул СССР у ФРГ і дзяржаўны сакратар ландтага зямлі Ніжняя Саксонія) адбылося ўрачыстае ўручэнне дара жыхароў Хельмштата светлагорцам — унікальнага ультрагукавога дыягнастычнага медыцынскага абсталявання коштам у 35 тысяч марак.**

У час візіту было падпісана таксама пагадненне з нямецкай фірмай аб аўтаматызацыі папераробчай машыны на ЦПЗ. Дарэчы, Светлагорск стаў шостым горадам, з якім Хельмштат мае пагадненні аб супрацоўніцтве.

### ЗА МОРАМ-АКІЯНАМ

**МАГІЛЁЎ. Навукова-вытворчае аб'яднанне «Магілёўтэхнамаш» прыняло ўдзел у савецкай нацыянальнай выстаўцы прагрэсіўнага абсталявання і сродкаў тэхналагічнага аснашчэння вытворчасці, якая прайшла ў Сінгапуры — горадзе-краіне, што здзіўляе увесь свет імклівымі тэмпамі эканамічнага развіцця.**

У Сінгапур магіляўчане адпраўлялі пнеўматычныя робаты-маніпулятары, аўтаматызаваную лінію зборкі і зваркі і аўтаматызаваныя склады-магазіны. Усе гэтыя экспанаты не горшыя за аналагічныя замежныя ўзоры, бо грунтуюцца на сучасных тэхнічных дасягненнях і даказалі надзейнасць у эксплуатацыі. Замежныя фірмы праявілі цікавасць да магілёўскіх тэхнічных навінак.

### ХТО ЯНЫ, АБАРОНЦЫ РАДЗІМЫ?

**ГОМЕЛЬ. (У. Пернікаў). У час пракладкі кабелю пад новы будынак прыгарадных кас чыгуначнага вакзала будаўнікі ўбачылі астанкі савецкіх воінаў. Знойдзена і пяць медальёнаў, якія адпраўлены ў Мінск на экспертызу.**

Хто ж гэтыя абаронцы Радзімы? Пры якіх абставінах загінулі? Старажылы горада расказваюць, што ў час вайны тут знаходзіўся вялікі канцлагер для ваеннапалонных, якіх сюды прывозілі па чыгунцы. У дарозе многія ў выніку жорсткага абыходжання, ад голаду і холаду паміралі. І фашысты скідвалі іх трупы ў выкапаныя ў наспех каля вакзала ямы.

Супрацоўнікі абласнога краязнаўчага музея, работнікі ваенкаматаў і воіны Гомельскага гарнізона, якія ўдзельнічалі ў раскопках, звярнуліся да жыхароў вобласці за дапамогай у раскрыцці гэтага сумнага факта ваеннага ліхалецця.

### УДЗЯЧНЫЯ ЗА КЛОПАТЫ

**ЖЛОБІН. З Галандыі, з адпачынку вярнулася дамоў група выхаванцаў Жлобінскай школы-інтэрната. Разам з дзецьмі ў горад на Дняпры наведаліся і члены галандскай дабрачыннай місіі.**

Яны азнаёміліся са школай, сустрэліся з яе выхаванцамі і выкладчыкамі. На другі дзень прыезду гасцей у школе адбыўся мітынг дружбы, на якім са словамі ўдзячнасці галандскаму народу за яго клопаты аб беларускіх дзецях выступіў дырэктар школы-інтэрната Віктар Раманенка. Вучні ўручылі гасцям традыцыйны славянскі хлеб-соль, памятныя сувеніры. У гэты ж дзень галандская дэлегацыя выехала ў Гомель, а адтуль ў Жыткавічы, дзе будзе набрана новая група дзяцей для паездкі на адпачынак у Галандыю.

### ГОРАД БЕЗ МЭРА?

**ГОМЕЛЬ. (У. Пернікаў). Ідзе ўжо другі тыдзень чарговай сесіі гарадскога Савета народных дэпутатаў. Адным з пунктаў яе з'яўляюцца выбары мэра Гомеля.**

Гэта пытанне дэпутатамі мусіруецца некалькі дзён. І пакуль што беспаспяхова, бо народныя абраннікі разбіліся на групы, якія бясконца дыскутуюць.

Выбары фактычна зайшлі ў тупік, што адмоўна адбіваецца на жыцці ўсяго горада. Бо калі доўгі час няма старшыні гарвыканкома (а гэта так), калі не зацверджаны структуры і штаты, то не вырашаецца шэраг розных праблем.

Дэпутаты працягваюць свае дэбаты, верх у якіх узялі палітычныя амбіцыі. Карысці гараджанам ад гэтага — аніякай, і хто-ніхто пагаворвае ўжо наконт роспуску такога гарсавета.

### ВЕРНУТЫ РЭЛІКВІІ

**Нельга расказаць, колькі бяссонных начэй, засад, следчых дзеянняў правялі работнікі КДБ, міліцыі, каб знайсці ўсё гэта багацце. Дзесяткі старажытных ікон, якія маюць вялікую гістарычную і духоўную каштоўнасць, царкоўныя рэчы канфіскаваны ў злачынцаў і вернуты законным гаспадарам.**

Міністр унутраных спраў БССР Уладзімір Ягораў перадаў вялікую партыю выратаваных скарбаў мітрапаліту Мінскаму і Гродзенскаму, патрыяршаму экзарху Беларусі Філарэту. На гэты раз былі вернуты рэліквіі, канфіскаваныя ў ходзе следства толькі па адной крымінальнай справе: пры спробе перавезці за мяжу ўдалося затрымаць каштоўнасці, выкрадзеныя ў розны час з прыходаў праваслаўных цэркваў Беларусі. Гэта іконы і царкоўныя кнігі, прадметы культу. Частка каштоўнасцей, якая не мае дачынення да рэлігіі, перададзена Мастацкаму музею БССР.

### ХУТКА, БЯСПЛАТНА І ЯКАСНА

**АСІПОВІЧЫ. (І. Сцяпура).** Над незвычайным заказам працуе зараз Асіповіцкі завод аўтаагрэгатаў. Справа ў тым, што на тэрыторыі саўгаса «Карытнае», ва ўрочышчы Прошча, заканчваецца ўзвядзенне царквы, а праваслаўныя храмы, як вядома, маюць купалы. Дык вось, веруючыя і мясцовыя ўлады і звярнуліся за дапамогай да калектыва завода. Аўтаагрэгатчыкі пайшлі ім насустрач. Ужо зманціраваны каркасы для трох купалаў і пачалося іх фармаванне. У бліжэйшы час купалы бясплатна будуць перададзены вернікам.

# Зварот Вярхоўнага Савета СССР

## З выпадку Дня Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.

Савецкі народ, яго Узброеныя Сілы ў другой сусветнай вайне здзейснілі беспрыкладны подзвіг, унёсшы асноўны ўклад у разгром фашызму, прызнаны ўсімі людзьмі добрай волі на планеце.

Сорак пяць гадоў Дзень Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне — 9 мая адзначаўся ў нашай краіне як агульнадзяржаўнае, агульнанацыянальнае свята, як дзень свяшчэннай памяці аб загінуўшых, як выказванне ўдзячнасці патомкаў, павагі да пасівелых воінаў і працаўнікоў тылу ўсіх нацыянальнасцей. У гэты дзень мы ўшаноўвалі ўдзячнай памяццю ратнае брацтва з народамі і воінамі іншых краін антыгітлераўскай кааліцыі. Многія старонкі нашай гісторыі асвячоны гэтым вялікім днём.

І тым больш балюча ўсведамляць, што ў некаторых месцах, ва ўмовах абвастрэння палітычных страсцей і амбіцый, узнікае імкненне прынізіць значэнне Перамогі, аддаць забыццю яе свята. Учыняюцца акты вандалізму і апаганення магіл загінуўшых воінаў, мемарыялаў, разбураюцца народныя святыні. Лічачы такое становішча недастойным дзяржавы, якая імкнецца да пабудовы цывілізаванага прававога грамадства, Вярхоўны Савет СССР звяртаецца да Саветаў усіх узроўняў, да ўсіх грамадзян краіны: абаронім гістарычную памяць народа — Дзень Перамогі і адзначым 9 мая 1991 года на ўсёй тэрыторыі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік!

Мы звяртаемся да савецкіх людзей усіх нацыянальнасцей, усіх пакаленняў: схілім галовы ў памяць аб загінуўшых героях Вялікай Айчыннай вайны, ушануем ветэранаў — яе ўдзельнікаў, мужчын і жанчын, якія гераічнай працай забяспечылі перамогу ў тыле, аднаўлялі разбураныя вайной гарады і вёскі.

У гэты дзень мы заклікаем усіх, хто стаў вольным або міжвольным удзельнікам міжнацыянальных канфліктаў, звярнуцца да запаветаў сваіх бацькоў і дзядоў, кроў якіх, пралітая на палях бітваў Вялікай Айчыннай вайны за свабоду нашай адзінай мнoгaнацыянальнай Радзімы, ужо ніколі не будзе раздзелена. Не можа быць яна раздзелена і ў нашай памяці, і настойліва заклікае нас да міру і згоды.

Мы просім ўсіх суайчыннікаў пакланіцца мужнасці і гераізму ўдзельнікаў беспрыкладных бітваў, прынесці кветкі на іх магілы, абараніць помнікі і мемарыялы, паклапаціцца аб удовах загінуўшых, аб ветэранах, аб адданні зямлі, як гэта і прынята па звычаю нашых продкаў, праху тых, хто ўсё яшчэ ляжыць безыменным на бяскрайніх палях вайны.

Звяртаючыся да Савецкай Арміі, мы просім яе ў гэты дзень аддаць воінскія ўшанаванні героям Вялікай Айчыннай вайны на ўсёй тэрыторыі нашай многанацыянальнай дзяржавы.

Няхай у гэты цяжкі для нашай Айчыны час Дзень Перамогі стане светлым промнем памяці для ўсіх народаў краіны. Няхай гэты дзень яшчэ раз нагадае нам, што толькі разам, плячо ў плячо мы зможам прайсці тыя выпрабаванні, якія цяпер выпалі на нашу долю, выстаяць і перамагчы. Нікому не дадзена права замахвацца на народную памяць, яе чысціня і недатыкальнасць павінны быць абаронены і нашай воляй і нашымі законамі. Радзіма ў нас адна. Гісторыя ў нас адна. Наш свяшчэнны абавязак перад усімі, хто жыў да нас і прыйдзе пасля нас, — захаваць краіну ад развалу, ад падзелу, ад замахаў звонку і знутры. Мы ўсе павінны змагацца за гэта і працаваць дзеля гэтага.

## З пасяджэння Сакратарыята ЦК КПСС

# За згуртаванасць партыйных радоў

Пад старшынствам намесніка Генеральнага сакратара ЦК КПСС У. А. Івашкі адбылося чарговае пасяджэнне Сакратарыята ЦК КПСС. Аб гэтым паведаміў прэс-цэнтр ЦК КПСС.

Гэта было першае пасля нядаўна праведзенага аб'яднанага Пленума ЦК і ЦКК КПСС пасяджэнне, і, адкрываючы яго, У. А. Івашка ва ўступным слове заклікаў глыбока прааналізаваць тэндэнцыі ў жыцці партыі, якія праявіліся на Пленуме. Назваўшы яго асаблівым па форме і зместу ў радзе ўсіх папярэдніх прадстаўнічых партыйных форумаў за апошнія дзесяцігоддзі, намеснік Генеральнага сакратара падкрэсліў неабходнасць канкрэтных дзеянняў па рэалізацыі пастаноў, прынятых Пленумам.

Асаблівую трывогу камуністаў выклікае ўзмацненне ідэйнага процістаяння, зараджэнне фракцыйнасці, стварэнне адчувальнай пагрозы адзінству партыі. На Пленуме з неспакоем гаварылася аб нарастанні разгубленасці сярод камуністаў, страце імі арыенціраў у практычнай рабоце, пранікненні ў партыйнае асяроддзе ідэй і лозунгаў апазіцыі, папулізму, «мітынговай дэмакратыі», нацыяналістычных настрояў. Сур'ёзна аслаблена дысцыпліна ў партыйных радах, няма неабходнай настойлівасці ў выкананні партыйных рашэнняў, паявілася нават неабавязковасць ва ўплаце членскіх узносаў.

У сувязі з вынікамі Пленума асаблівую цікавасць удзельнікаў пасяджэння Сакратарыята выклікала ініцыятыва Камісіі ЦК КПСС па абнаўленню дзейнасці пярвічных партыйных арганізацый, якая падрыхтавала рэкамендацыі па ўмацаванню радоў КПСС. Расказваючы аб рабоце, праведзенай камісіяй, першы намеснік загадчыка Арганізацыйнага аддзела ЦК КПСС Ю. І. Рыжоў адзначыў, што камісія не драматызавала становішча ў партыі, але і не заплюшчвала вочы на крызісныя з'явы. Ён прывёў такія даныя: калі ў 1990 годзе з партыі выйшла 1,8 млн. чалавек, то за першы квартал гэтага года — 587 тысяч. У той жа час павялічылася колькасць уступіўшых у КПСС: калі за ўвесь мінулы год іх было 18 тысяч, то толькі ў першым квартале гэтага года ў КПСС уступіла 46 тысяч чалавек.

Але галоўную небяспеку Камісія ЦК КПСС па абнаўленню дзейнасці пярвічных партыйных арганізацый бачыць ва ўзмацненні націску, накіраваным на выцясненне партыйных арганізацый з прадпрыемстваў. Праўда, такое адбываецца ў асноўным у малалікіх калектывах — у школах, вучылішчах, дробных арганізацыях, аднак гэтыя працэсы пачынаюць закранаць і буйныя прадпрыемствы прамысловасці, транспарту, будаўніцтва.

У гэтых умовах, падкрэслівае камісія, у масе камуністаў расце рашучасць да згуртавання і кансалідацыі партыйных радоў. Сіла камуністаў заўсёды была у арганізаванасці, перакананасці ў справядлівасці сваёй справы, у служэнні народу. Трэба неадкладна выходзіць з маральнага крызісу, з паласы разгубленасці і бяздзейнасці. Нельга вырашыць задачу ўмацавання саставу партыі, знаходзячыся на абочыне галоўных інтарэсаў людзей.

Згуртаваць партыйныя рады можна толькі вакол канкрэтных спраў, падтрымаў гэта палажэнне член ЦК КПСС, загадчык Аддзела ЦК КПСС па заканадаўчых ініцыятывах і прававых пытаннях В. С. Бабічаў. Канкрэтныя справы ажыццяўляюцца ў працоўных калектывах, Саветах. Значыць, голас камуністаў павінен гучаць перш за ўсё тут, дзе сёння вырашаюцца вельмі вострыя пытанні штодзённага жыцця. Кожная партарганізацыя павінна ведаць, што ёй неабходна рабіць для пераадолення эканамічнага спаду, развіцця новых форм гаспадарання, абароны палітычных і сацыяльных правоў чалавека працы.

Своечасовасць прапанаваных камісіяй рэкамендацый адзначыў першы сакратар Маскоўскага гаркома КПСС Ю. А. Пракоф'еў. Яны стануць важнай падмогай у рабоце пярвічных партарганізацый сталіцы, многія з якіх працуюць у «асадным» становішчы. Каля 150 з іх ужо не вытрымалі масіраванага напору і, праявіўшы слабасць, расфарміраваліся. І справа тут зусім не ў тым, што яны малалікія і дзейнічалі ў дробных канторах. Гэта было б слабым суцяшэннем для нас.

Нельга не бачыць, што многія партарганізацыі не карыстаюцца сваім правам самастойнасці у будове свайго ўнутранага жыцця і дзейнасці, не прымаюць дадатковых мер па ўмацаванню дысцыпліны, сказаў в. а. старшыні ЦКК КПСС Я. М. Махаў. А новы статут партыі, апошнія нарматыўна-метадычныя дакументы прадастаўляюць ім такое права. Неабходна на поўную сілу задзейнічаць дэмакратычныя механізмы для павышэння актыўнасці і развіцця ініцыятывы камуністаў, разам з тым забяспечыць строгае захаванне палажэнняў, якія датычаць павышэння арганізаванасці, дысцыпліны і адказнасці ў партыйных радах. Прамоўца зрабіў упор на асаблівасцях кантролю за выкананнем партыйных рашэнняў у цяперашніх умовах.

Гэта меркаванне развіў сакратар ЦК КПСС В. А. Купцоў. На яго думку, у апошні час аслаблена патрабавальнасць на ўсіх узроўнях за ўнутрыпартыйную работу. Датычыць гэта, на жаль, і ЦК КПСС.

Сакратар ЦК КПСС П. К. Лучынскі звярнуў увагу на неабходнасць папулярызацыі дзейнасці тых тэрытарыяльных партарганізацый, якія ў новых умовах набылі пазітыўны вопыт абнаўлення і ўмацавання сваіх радоў. Як правіла, сказаў ён, новае папаўненне — гэта перакананыя, дзейныя прыхільнікі сацыялістычнага выбару. Бо прыём у партыю не спыняецца нават там, дзе вядзецца цкаванне сумленных партыйцаў. Трэба ўзняць палітычную значнасць работы па арганізацыі прыёму ў КПСС, зрабіць яе ключавой у дзейнасці пярвічных партарганізацый, гаркомаў і райкомаў, актыўна шукаць свежыя сілы, зацікаўленыя ў ажыццяўленні пераўтварэнняў, якія прапануе партыя. Адбор у КПСС павінен быць агульнапартыйнай справай, падкрэсліў член Сакратарыята ЦК КПСС І. І. Мельнікаў.

Аб рабоце з новым партыйным папаўненнем гаварыў сакратар ЦК КПСС А. С. Дзасохаў. Маладых камуністаў трэба акружыць клопатамі і ўвагай, дапамагчы кожнаму знайсці сваё месца, даць магчымасць праявіць свае здольнасці. Трэба больш паглыблена шукаць прычыны, у выніку якіх адбываецца адток з партыі. Ці заўсёды гэта самаачышчэнне? Бо ў свой час кожны рабіў выбар самастойна, калі ўступаў у КПСС.

Сваімі меркаваннямі аб прапановах Камісіі ЦК КПСС па абнаўленню дзейнасці пярвічных партыйных арганізацый падзяліліся таксама сакратары ЦК КПСС А. М. Гірэнка, Я. С. Строеў, А. С. Шэнін, якія выказалі нямала цікавых думак, звязаных з дэмакратызацыяй унутрыпартыйнага жыцця, здольнасцю пярвічных арганізацый эфектыўна дзейнічаць ва ўмовах вострай палітычнай барацьбы, павышэннем аўтарытэту ў масах працоўных.

Вынікі дыскусіі падвёў У. А. Івашка. З улікам выказаных у ходзе абмеркавання прапаноў вырашана накіраваць рэкамендацыі камісіі ў мясцовыя партыйныя камітэты, дадаўшы да дакумента адпаведную пастанову Сакратарыята ЦК КПСС з пералікам першачарговых мер, накіраваных на ўмацаванне партыйных радоў.

Сакратарыят ЦК КПСС абмеркаваў і зацвердзіў план сувязей КПСС з зарубежнымі партыямі.

Разгледжаны таксама арганізацыйныя пытанні.

Галоўным рэдактарам новага публіцыстычнага і літаратурна-мастацкага часопіса ЦК КПСС «Утро» зацверджаны В. П. Мацяшоў, які працаваў раней загадчыкам сектара Ідэалагічнага аддзела ЦК КПСС.

Сакратарыят ЦК КПСС згадзіўся з пастановамі пленума партыйнага камітэта арганізацыі КПСС унутраных войск МУС СССР аб выбранні А. І. Кірылюка сакратаром парткома, пленума партыйнага камітэта чыгуначных войск — аб выбранні В. П. Сасніна сакратаром парткома гэтых войск, пленума партыйнага камітэта КДБ СССР — аб выбранні Н. І. Назарава сакратаром парткома КДБ СССР.

## Указ Прэзідэнта Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік

### Аб кампенсацыі страт ад абясцэнення грашовых накапленняў грамадзян па доўгатэрміновых дагаворах з органамі Дзяржаўнага страхавання СССР

У мэтах абароны грашовых накапленняў грамадзян па доўгатэрміновых дагаворах з органамі Дзяржаўнага страхавання СССР у сувязі з аднаразовым павышэннем розначных цэн **пастанаўляю:**

1. Прыняць прапановы Кабінета Міністраў СССР аб кампенсацыі страт ад абясцэнення грашовых сродкаў грамадзян у выглядзе накапленняў страхавых узносаў па дзеючых на 1 сакавіка 1991 года доўгатэрміновых дагаворах з органамі Дзяржаўнага страхавання СССР, прадугледзеўшы іх разавую пераацэнку.

Кампенсацыю правесці прымяняльна да ўмоў, прадугледжаных Указам Прэзідэнта СССР ад 22 сакавіка 1991 года «Аб кампенсацыі насельніцтву страт ад абясцэнення зберажэнняў у сувязі з аднаразовым павышэннем розначных цэн» (ведамасці З'езда народных дэпутатаў СССР і Вярхоўнага Савета СССР, 1991 г., нумар 13, арт. 391).

2. Міністэрству фінансаў СССР распрацаваць парадак кампенсацыйных выплат у сувязі з разавай пераацэнкай грашовых сродкаў грамадзян па доўгатэрміновых дагаворах з органамі Дзяржаўнага страхавання СССР.

**Прэзідэнт Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік М. ГАРБАЧОЎ.**

Масква, Крэмль.
6 мая 1991 г.

# «Я — аптыміст...»

**Пра дабрабыт сёння найбольш рэальна гаварыць у родным склоне. Памятаеце, каб правільна назваць гэты склон, яшчэ ў школе нас вучылі ўспамінаць слова «няма». Што ж, паспрабуем. Няма (чаго?)—дабрабыту, заможнасці. А вельмі хочацца часцей ужываць гэтыя два цудоўныя словы, якія мы так часта чулі ў клятвах і абяцанках, у склоне вінавальным: бачу — што?...**

**Мне здаецца, такое магчыма тады, калі сёння мы больш будзем гаварыць слова «ўбачу». Узнікне пытанне: а што ўбачу? Тым самым зможам прааналізаваць, асэнсаваць былыя памылкі, не паўтараць іх. І галоўнае, з'явіцца вера ў тое, што наш лёс у нашых руках. А «светлае заўтра» абавязкова прыйдзе. Дык смела наперад!**

**Канешне, такія аптымістычныя заявы зараз могуць выклікаць толькі іронію. Але ёсць людзі, для якіх усё гэта не проста словы, а жыццёвая ўстаноўка.**

**Аляксандр КАЗЛОЎСКІ, звычайны вясковы чалавек з Браслаўшчыны. Вёска, у якой жыве Аляксандр са сваім сямействам, называецца казачна, — Белабокі.**

## Вёска: адраджэнне гаспадара

— Амаль дзесяць гадоў прайшло з таго часу, калі я зразумеў, што не магу больш быць робатам,—гаворыць Аляксандр. — Спачатку працаваў трактарыстам у сваім калгасе імя Кірава, потым пайшоў на ферму даіць кароў. Цешчу замяніў: яна на пенсію—я—на яе месца. Час быў, як кажуць, «даперабудовачны», пра арэнду і не чулі. Гэта я зараз ведаю, што арандатарам завуся. А тады: аддзяліўся ад калектыву— і кропка. Разумееце, вельмі цяжка працаваць добра, калі бачыш, што хтосьці побач лынды б'е, а як надыходзіць час разліку—зарплату аднолькавую атрымліваем. Вось і прымусіла мяне жыццё. Звярнуўся ў праўленне калгаса: маўляў, хачу самастойна працаваць. Для тых часоў (пачатак васьмідзесятых) гэта была навіна яшчэ тая. Пасля думалі ў раёне, прыкідвалі і вырашылі, што нічога антызаконнага не будзе, калі даяр Казлоўскі возьме сабе групу кароў і атрымае сумленна заробленыя грошы. Так сказаць, падтрымалі ініцыятыву. Вось і зрабіўся я аднаасобнікам у родным калгасе...

Гэта быў пачатак. З часам Казлоўскі стаў чалавекам вядомым у раёне, у вобласці, рэспубліцы, нават у Саюзе. Стаў арандатар даяром-пяцітысячнікам: у 1990 годзе надаіў ад каровы 5.209 кілаграмаў малака. Узначаліў раённы клуб чатырохтысячнікаў, стаў дэлегатам устаноўчага з'езда Сялянскага саюза СССР. Вось і ўвесь шлях угору. Перашкод на ім амаль не было—і добра. Віцебшчына ганарыцца Казлоўскім. Маўляў, глядзіце, што атрымліваецца, калі «не душыць ініцыятыву». Здараецца, што і занадта разганяюцца тыя, хто хваліцца яго поспехамі. Напрыклад, абласная газета «Віцебскі рабочы» зрабіла яго ўжо даяром-шасцітысячнікам. Але гэта, зразумела, не страшна, не больш, чым старая звычка падправіць лічбачку. Падумаеш, дробязь такая. Казлоўскі давер апраўдае.

Зразумела, апраўдае. Бо ў яго сёння ёсць самае галоўнае — мэта. Таму і не вельмі памыліліся ў газеце, калі напісалі пра шэсць тысяч.

— Кароў даіць пайшоў, — тлумачыць Аляксандр, — таму што цікавасць узнікла да гэтай працы. Пачуў аднойчы па радыё, што ў Галандыі ад каровы па дзесяць тысяч кілаграмаў малака ў год надойваюць, вось і падумаў: а колькі ж нашы буронкі змогуць даваць? Зараз бачу, што галоўная прычына немагчымасці для нас такіх вынікаў не ў жывёле, а ў нашай несвабодзе. А ўжо адчуўшы подых волі, няволя здаецца проста невыноснай. Арандатар жа прывязаны да калгаса, саўгаса, карацей кажучы, залежны. Мабыць, у нейкім сэнсе гэта і нядрэнна, маўляў, менш галава баліць: у каго купіць, каму прадаць. Не ведаю, як каму, а мне дык хочацца самому прымаць рашэнні. Поспехам радавацца і памылкам засмучацца самому. Вельмі хочацца ў рэшце рэшт рызыкаваць. Бо сапраўднага прадпрымальніцтва без рызыкі няма...

На рызыку Казлоўскія ідуць абдумана. Трэба сказаць, што і зараз сям'я не прытрымліваецца калгасных завядзёнак. Дояць, напрыклад, «свой» статак не два, а тры разы ў дзень. Хоць і стаіць ён у адным хляве з калгасным. Толькі ёсць крыху смачней. Усё гэта—складаемыя прыбытку. Але быў бы большым прыбытак, каб не некаторыя фінансавыя недарэчнасці. Калгас набывае ў Казлоўскага малако па 31,5 капейкі за кілаграм, а сам дзяржаве прадае па 60,5. Дык чаму самому працаўніку не гандляваць з дзяржавай? Прыйдзецца думаць, як збыць тавар, чым яго дастаўляць, дзе і як набыць неабходнае? А ўсе гэтыя думы ў наш час—не што іншае, як згуба асабістаму здароўю. Але Аляксандр Казлоўскі не навічок у сельскай гаспадарцы. Тым больш, што за плячамі ёсць запас вопыту не калгаснага, а якога-ніякога самастойнага гаспадарання. Ды і паласа сумненняў, страхаў пройдзена Казлоўскім. Ён упэўнена сцвярджае:

— Фермерства для мяне зараз—адзіны выхад у заўтрашні дзень. Мая воля прынясе карысць не толькі сям'і, але і майму народу. Магчыма, маёй працы будзе мала, і яшчэ як мала, але ж буду ўсё рабіць дзеля таго, каб хутчэй насталі часы, калі не будзем стаяць перад іншымі краінамі з працягнутай рукой, чакаючы міласціню.

Але ж, згадзіцеся, цяжка зразумець чалавека, які кідаецца ў палаючы дом. Так і з зямлёю. Ці не лепш пачакаць? Што ж, асцярожнасць—наша нацыянальная рыса, узрошчаная не адным стагоддзем. Сёняшні фермер — той самы колішні кулак. Дык ці не чакае яго той лёс, што і папярэдніка. Такое пытанне задае сабе кожны селянін, ідучы ў прыватнікі. І толькі той, хто ўпэўнены, што гістарычныя ўрокі пайшлі на карысць, робіць крок наперад. Але ж там чакаюць яго шматлікія цяжкасці.

— Усё ж ці варта ахвяраваць сабой? — дапытваюся. — Няўжо грошы?

І вось атрымліваю адказ:

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

# Рады камуністаў растуць

Сярод партыйных арганізацый, якія без прамаруджвання выносяць на абмеркаванне камуністаў актуальныя праблемы, прыцягваючы да гэтага і беспартыйных, актыўна ўдзельнічаюць у вырашэнні вытворчых, сацыяльных і выхаваўчых задач, у справаздачным дакладзе ЦК Кампартыі Беларусі XXXI з'езду КПБ была названа і парторганізацыя саўгаса «Дзербічы» Буда-Кашалёўскага раёна.

## Партыйныя будні

У верасні мінулага года мне давялося прысутнічаць тут на партыйным справаздачна - выбарным сходзе. Памятаю, перш чым перайсці да асноўнага пытання сходу — справаздачы парткома, сакратар партыйнага камітэта А. Грышанкова абвясціла аб прыёме ў члены КПСС.

У галоўнага эканаміста саўгаса І. Юравай, даяркі Л. Барашка і брыгадзіра малочнатаварнай фермы «Дзербічы» В. Несцярэнкі скончыўся кандыдацкі стаж, і яны былі аднагалосна прыняты ў члены КПСС. А саўгаснага касіра Н. Захарчанка прынялі ў члены КПСС па новаму статуту—без праходжання кандыдацкага стажу.

Такім чынам, у той час як з Камуністычнай партыі шоў адток, партыйная арганізацыя саўгаса «Дзербічы» не толькі не страціла ніводнага камуніста, а папоўніла свае рады дастойнымі людзьмі.

Пасля таго сходу на нарадах і семінарах сакратароў партыйных арганізацый мне не раз прыходзілася чуць, як ставілася ў прыклад саўгасная партыйная арганізацыя. Але некаторыя партыйныя важакі іранізавалі прыкладна так: «Старымі запасамі жывуць, пабачым, які рост гэтай арганізацыі будзе ў далейшым».

У лютым гэтага года я зноў прысутнічаў на агульным сходзе камуністаў саўгаса. І зноў першым пытаннем сходу было пытанне прыёму ў КПСС. На гэты раз камуністы прынялі ў свае рады настаўніцу французскай мовы мясцовай школы Л. Тарасаву.

«Ці выпадковасць гэта?» — «Не»,—адказалі многія камуністы, з якімі прыйшлося весці размову на гэту тэму.

А сакратар парткома А. Грышанкова запэўніла:

— У нас ёсць яшчэ рэзерв для росту партыйнай арганізацыі. Сёлета разлічваем прыняць у КПСС яшчэ не менш трох чалавек.

Партыйная арганізацыя, яе партком ушчыльную займаюцца падборам і расстаноўкай кадраў. І не выпадкова, што ўсе вытворчыя падраздзяленні саўгаса ўзначальваюць камуністы—выхавальнікі калектыву. І кожны з іх праяўляе партыйныя клопаты не толькі аб вытворчых паказчыках, але і аб лёсе асобнага працаўніка.

Не першы год малочнатаварную ферму «Антонаўка» ўзначальвае камуніст, член парткома І. Іваноў. Гэта ферма з'яўляецца перадавым жывёлагадоўчым падраздзяленнем саўгаса. Калектыў першым у саўгасе перасягнуў трохтысячны рубеж па надоях малака ад каровы. А даярка гэтай фермы Н. Цытрыкава першай з саўгасных даярак стала членам раённага клуба даярак-чатырохтысячніц.

Добрых камуністаў-кіраўнікоў вытворчых падраздзяленняў у саўгасе нямала. Пастаянна «хварэюць» за канчатковы вынік сваіх калектываў, прынцыпова адстойваюць інтарэсы працаўнікоў брыгадзіры ферм «Майсееўка» і «Дзербічы» — В. Сільчанка і В. Несцярэнка.

У саўгасе амаль усе жывёлагадоўчыя падраздзяленні ўзначальваюць камуністы. З добрымі арганізатарскімі здольнасцямі, якія ўмеюць мабілізаваць калектывы на паспяховае выкананне даведзеных планаў.

Работу па прыёму ў КПСС вядзе не толькі сакратар парткома Алена Анатольеўна Грышанкова. Яе актыўнымі памочнікамі ў гэтай справе з'яўляюцца сакратары цэхавых партарганізацый жывёлагадоўлі і раслінаводства—бацька і сын Салаўі, механізацыі—член райкома КПБ М. Чумакоў, сельскай тэрытарыяльнай—Л. Пракопчанка.

А найлепшай агітацыяй для ўступлення ў КПСС з'яўляецца ўзорная праца саміх камуністаў.

**М. ЧЭЧКА.**
**Буда-Кашалёўскі раён.**

# «НАМ ПАТРЭБНА МІНІСТЭРСТВА-ПАРТНЁР!»

## Рэха публікацыі

**Дазвольце мне, калі ласка, падзяліцца сваімі ўражаннямі наконт артыкула ў «Звяздзе» ад 26 сакавіка 1991 года пад загалоўкам «Вярніце нам міністэрства».**

Кароценька аб сабе. Я працую намеснікам генеральнага дырэктара вытворчага аб'яднання «Гроднааблбыт» (раней было Упраўленне бытавога абслугоўвання Гродзенскага аблвыканкома, зменена шыльда,— на мой погляд, не лепшым чынам—у 1989 годзе) з 1975 года і маю падставы выказаць менавіта свае думкі. Мой працоўны стаж—36 гадоў, узрост — 52 гады.

Мы лічымся лепшымі ў рэспубліцы, усе нашы прадпрыемствы выконваюць план, ніхто датацыі з бюджэту нам не дае, зарабляем грошы самі. На добрым узроўні ўсе эканамічныя паказчыкі сістэмы.

Я вельмі абураны «ўмелым кіраўніцтвам», як вы пішаце ў артыкуле, у выніку якога служба сервісу ператварылася ў «бытоўку», нават калі гэта слова ўзята ў двукоссе. У такім выглядзе яно абражае ўсіх работнікаў службы быту, якіх больш за 100 тысяч у рэспубліцы толькі ў сістэме былога міністэрства. Патрэбна ці не нам міністэрства?

Па-першае, нас ніхто не пытаўся, калі яго ліквідоўвалі, а мы, пэўна, сферу абслугоўвання ведалі лепш, чым любы чыноўнік рэспубліканскага апарату. У нашага Вярхоўнага Савета (дзе няма ніводнага дэпутата ад службы быту) чамусьці хапіла мужнасці ліквідаваць толькі адно наша міністэрства, а наш куратар — ранейшы намеснік Старшыні Саўміна БССР Макаед Н. А.—не здолеў заняць прынцыповую пазіцыю ў гэтым пытанні. У выніку такога «кіраўніцтва» мы атрымалі два добраахвотныя Саюзы, два прэзідэнты і поўны хаос у сістэме. Каму гэта патрэбна і выгадна—не ведаю.

Па-другое, у тым выглядзе, якім яно было, наша міністэрства сёння сапраўды не патрэбна. Былое міністэрства—эталон каманднa-адміністрацыйнай сістэмы. І найпершая віна ў тым кіраўніцтва рэспублікі, якое вельмі любіла кіраваць і даваць указанні, як правільна працаваць. Ад міністэрства патрабавалі шмат звестак для дакладаў і справаздач, а яно, у сваю чаргу, патрабавала іх ад нас. Вось апараты ўпраўленняў і міністэрства і трацілі час на справаздачы замест жывой справы па абслугоўванню насельніцтва.

Разам з тым, пры ўсіх недахопах міністэрства было гарантам сістэмы ў рэспубліцы. Развівалася галіновая навука, праводзілася генеральная лінія на развіццё сеткі абслугоўвання ў вёсцы (сёння кожны калгас ці саўгас мае дом быту ці комплексны прыёмны пункт), вучыліся спецыялісты (швейнікі, цырульнікі, абутнікі, майстры па рамонту бытавой тэхнікі і радыёапаратуры і інш.) новаму, прагрэсіўнаму, што было ў той час у краіне і за мяжой і г. д., усяго не пералічыць. Была распрацавана і дзейнічала сістэма матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння.

У нас таксама быў дзяржаўны план, які даводзіўся зверху з ростам да 10 працэнтаў і выконваўся заўсёды (хоць і да гэтага часу не разумею, чаму сферы паслуг даводзіцца план). У той час цэнтралізацыя кіраўніцтва дасягнула свайго апагея—нам з Масквы па інструкцыі ЦСУ СССР устанаўлівалася, што, як, каму і колькі аказваць паслуг. Даходзіла да абсурду. Напрыклад, у лазні можна было па інструкцыі карыстацца шампунем ва ўпакоўцы, якая не б'ецца, інакш паслугі здымаліся з плана і матэрыялы разглядалі следчыя органы. А ў краіне шампуні ў той час выпускаліся толькі ў шкляной тары. І вось па такіх нюансах цэлыя полчышчы правяраючых—КНК, КРУ, органаў унутраных спраў, пракуратуры і мноства іншых інспекцый па ўказанню так званых «дырэктыўных органаў» марнавалі народ, які зарабляў грошы ў бюджэт для іх жа зарплаты.

Я і цяпер з павагай стаўлюся да міністэрства як дзяржаўнага органа, што ў многіх выпадках не дазваляе разгуляцца бюракратычнай правяраючай стыхіі. Таму і зараз лічу, што такое міністэрства, якое было б марыянеткай у «дырэктыўных органаў», нам не патрэбна.

Нам патрэбна міністэрства-партнёр, а не адміністратар, якое выконвала б функцыі матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння (пакуль яшчэ ёсць рынак попыту, а не прапаноў), прававой абароны, падрыхтоўкі кадраў, займалася пытаннямі навукі, тэхнічнай і тэхналагічнай палітыкі. Карацей, тымі пытаннямі, якія мы самі перадалі яму.

Цяпер па прыватызацыі. Многія асобы самых розных рангаў лічаць, што прыватызацыя—гэта панацэя ад усіх нашых бед. Я не лічу, што павінна быць толькі дзяржаўная ўласнасць. Як кліент пайду туды, дзе мой заказ выканаюць хутчэй, танней, больш якасна і надзейна. Але ж нельга рабіць так па-кампанейску, як прапануюць многія: прадаць і ўсё. Мы павінны сёння паралельна ствараць новыя структуры абслугоўвання з любой формай уласнасці, якія будуць змагацца за кліента. Пры гэтым яны павінны быць у роўных правах з дзеючымі.

Чамусьці многія лічаць, што «бытоўка»—гэта швейныя майстэрні (а ёсць яшчэ фабрыкі, атэлье, Дамы мод), цырульні (а ёсць салоны), абутковыя майстэрні (а ёсць цэлыя фабрыкі і аб'яднанні), майстэрні па рамонту бытавой тэхнікі (а ёсць рамонтныя заводы). Ёсць яшчэ фабрыкі-пральні, трыкатажныя і мэблевыя фабрыкі і шмат што іншае. А там працуюць калектывы, якія павінны самі вырашаць свой лёс, а не аддзелы прыватызацыі выканкомаў ці іншыя новыя структуры, што растуць, як грыбы. І таму трэба лічыцца з людзьмі, якія працуюць у гэтай сферы, а не вырашаць іх пытанні ў кабінетах чыноўнікаў Саўміна БССР ці іншых «дырэктыўных органаў».

Калі мы сёння пачнём прадаваць з малатка прадпрыемствы быту, як прапануюць некаторыя гарачыя галовы, то першымі адчуюць гэта на сабе сельскія жыхары. Напрыклад, у нашай вобласці 430 сельскіх комплексных прыёмных пунктаў. У сярэднім кожны аказвае на 4.000 рублёў паслуг у месяц. Калі ж якое прадпрыемства выпадзе, то парушацца сувязі, у сельскія КПП не будзе паступаць выкананы заказ, і тое, што стваралася на працягу 25 гадоў, для вёскі будзе знішчана за лічаныя месяцы.

У лепшым выпадку КПП пераабсталююць пад кватэры, у горшым—будуць стаяць з выбітымі вокнамі (іх ніхто не прыватызуе) як помнік нашаму галавацяпству.

Вы пішаце, што «бытавікі» не прыдумалі нічога лепшага, як павысіць з 1 лютага цэны ў 1,7 раза. А я з вамі не згодзен, бо ў нармальнай эканоміцы так не бывае, як у нас. І вось чаму. Пасля 1 лютага для нас кошт сыравіны павялічыўся ў 5,5 раза, налічэнні на сацстрах замест 4,7 працэнта сталі 37, электраэнергія — у два разы, цеплаэнергія—у 3,3, вада для пральняў замест 2,5 капейкі стала 14 капеек, паштовыя паслугі—у 12 разоў (перасланне выручкі з сельскіх КПП 100 рублёў раней каштавала 20 капеек, цяпер—2 рублі 50 капеек), паслугі забеспячэння—у 4 разы.

Няхай любы эканаміст, хоць сам Васіль Лявонцьеў, скажа, што ў такім разе застаецца рабіць нам? Але ж гэта не ўсё. Мы не адмаўлялі насельніцтву ў прыёмцы заказаў у снежні 1990 года на студзень, люты і нават сакавік 1991 года (пастанова Савета Міністраў БССР па правілах абслугоўвання забараняе гэта рабіць), і, такім чынам, прынятыя заказы аплачаны па старых прэйскурантах. У выніку такой «эканомікі» ў студзені—лютым усе прадпрыемствы аказаліся без прыбытку. Нават павышаючыя каэфіцыенты на паслугі не дапамогуць выплаціць па 60 рублёў кампенсацыі на рост цэн, не гаворачы аб тым, што мы нічога не зможам пабудаваць. І зноў работнікі сферы абслугоўвання апынуцца на ўскрайку жыццёвых даброт, бо сярэдні заработак у працуючага за 1990 год склаў 213 рублёў у месяц.

Наконт матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння нам тлумачаць, што, паколькі міністэрства няма, яму дзяржзаказ на паслугі не даводзіцца, а таму сыравінай будзем забяспечаны толькі на 30—50 працэнтаў да ўзроўню 1990 года, нягледзячы на ўсе пастановы і ўказы Прэзідэнта. Тое ж прыкладна з будаўніцтвам жылля. Дык патрэбна нам міністэрства на пераходны перыяд ці не? Думаю, што абавязкова патрэбен дзяржаўны орган, які не дазволіў бы ўшчэнт развaліць тое, што зроблена за чвэрць стагоддзя. Добраахвотнаму саюзу бытавікоў у рэспубліцы гэта не пад сілу.

Мы ведаем і іншае. Нягледзячы на новыя цэны, на мой погляд, тавараў больш у магазінах не будзе, таму што іх менш выраблаецца. І на гэты перыяд служба быту змагла б унесці свой уклад у змяншэнне сацыяльнай напружанасці ў грамадстве. Толькі, калі ласка, дзяржаўныя дзеячы рэспублікі і народныя дэпутаты БССР, не рабіце паспешлівых крокаў у вырашэнні яе лёсу! Такіх, напрыклад, як Харчовая праграма і антыалкагольная кампанія, за якія нам усім сорамна.

І апошняе. Раней на ўсіх дакументах, якія датычылі нашай сістэмы, стаяў подпіс міністра бытавога абслугоўвання насельніцтва БССР. У апошніх указаннях па пераацэнцы тавараў народнага спажывання ў рэспубліцы на 1 красавіка 1991 года, жыццёва важных для нас, ёсць подпісы Дзяржэканомплана, Мінфіна, Мінгандлю, Белспажыўсаюза. Зноў жа за нас усё вырашылі. Вось і меркуйце, ці патрэбна нам міністэрства.

**А. ДЗЕМІДОВІЧ.**
г. Гродна.

# Зямля і фермер

Перабудаваць вытворчасць прасцей, чым перабудаваць свядомасць. А большасць з нас са школьнай лаўкі засвоілі, што вышэйшым нашым дасягненнем у сельскай гаспадарцы з'яўляюцца калгасы, усе іншыя тыпы гаспадарак менш эфектыўныя і нават антысацыялістычныя.

Але час уносіць свае карэктывы. Мы ўсё больш пераконваемся, што, разбурыўшы прывычнае для селяніна паняцце «маё» і прымусова навязаўшы яму паняцце «наша», была народжана безадказнасць і разлагаючае паняцце «нічыё».

Гэта скажа вам любы селянін, які не страціў цікавасці да зямлі і працы на ёй.

Зададзім сабе пытанне. Ці варта шкадаваць аб страце калектывізму, навязанага зверху? І ці мог ён узнікнуць у калгасах, дзе ў селяніна ёсць адно права — выконваць кіруючыя загады? Можна, вядома, прывесці шэраг прыкладаў моцных калгасаў. Але ці могуць усе дацягнуцца да іх узроўню? Не, вядома.

Безумоўна, моцныя калгасы павінны на даным этапе існаваць і працаваць. А як быць з астатнімі?

Я не буду пералічваць праблемы, якія хвалююць селяніна, яны вядомы ўсім. Давайце спынімся на тым, аб чым марыць селянін і што ён чакае ад беларускага ўрада і парламента.

Найпершая ўмова, каб селяніну не перашкаджалі працаваць на яго ўласнай зямлі. Гэта можа быць фермерская гаспадарка ці малое сельскагаспадарчае прадпрыемства (кааператыў) з новым статусам. Адным словам, былы калгас трансфармаваўся ў малое сельскагаспадарчае прадпрыемства.

Фермер чакае ад дзяржавы (рэспублікі) крэдыт у 100—200 тысяч для ўзвядзення жылога дома, гаспадарчых пабудоў, пакупкі сельскагаспадарчай тэхнікі, інвентару, насення і г. д. Фермер спадзяецца, што ён зможа пакрыць кошт усяго гэтага ў Камерцыйным сялянскім банку Беларусі. Фермеру патрэбна дапамога ў асобе рэспублікі па камплектаванню яго гаспадаркі трактарамі, сеялкамі, касілкамі, мотаблокамі, даільнымі апаратамі, аўтатранспартам і г. д. за кошт крэдытаў.

Так склалася наша эканоміка, што ўрад рэспублікі павінен сам пайсці насустрач у гэтым пытанні сельскаму працаўніку і абвясціць дзяржаўнай справай стварэнне ў Беларусі фермерскіх гаспадарак і малых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў на базе адстаючых і сярэдніх калгасаў і саўгасаў.

Неабходна таксама мець на ўвазе, што селянін у душы не ўспрымае арэнды, бо арэнда— нішто і ніхто. На самай справе, у размовах з сялянамі, якія жылі яшчэ пры панскай Польшчы, высвятляеш, што арандатар—гэта бядняк, які не мае ні свайго двара, ні дома, а зямлі — тым больш. Тады быў пан, а цяпер саўгас або калгас? Дык ці не лепш быць самому «панам» і гаспадаром на зямлі? Арэнда прыжывецца ў прамысловасці, але не ў сельскай гаспадарцы.

## Пункт погляду

Неабходна таксама сумленна канстатаваць, што калгасніка, па сутнасці, ператварылі ў наёмнага рабочага, а на нейкім этапе, больш таго, у бяспраўнага батрака. Ці не таму гэтай форме гаспадарання характэрныя нізкая працоўная і тэхналагічная дысцыпліна, безыніцыятыўнасць, раўнадушша да ўсяго, што адбываецца, і г. д. Зжываецца гэта хвароба ў адным выпадку — калі селянін становіцца гаспадаром зямлі, фермы, сельскагаспадарчага прадпрыемства.

Базіравацца такія прадпрыемствы і фермерскія гаспадаркі, у аснове сваёй, будуць на асабістай працы, з прыцягненнем да работы па дагавору рабочых у гарачы час. Адпадзе ў сілу гэтага і масавая «працоўная павіннасць» гарадскога насельніцтва пры ўборцы ўраджаю ў асеннія месяцы.

Работа на зямлі цяжкая і складаная. Фермеру і яго сям'і практычна прыходзіцца працаваць па 12—14 гадзін у суткі. Пры станаўленні гаспадаркі, узвядзенні катэджа, гаспабудоў фермер павінен многае ўмець і ведаць, а галоўнае — любіць і ўмець апрацоўваць зямлю. Такі навык прывіваецца работай на зямлі. Я падводжу да таго, што зямлю для вядзення фермерскай гаспадаркі неабходна даваць толькі людзям кампетэнтным у ёй, а не ўсім жадаючым. Аднаго жадання для работы з зямлёй—мала. Арыентавацца ў гэтым пытанні трэба на моцную сям'ю сельскагаспадарчага спецыяліста шырокага профілю.

Лічу мэтазгодным увядзенне пасады намесніка міністра сельскай гаспадаркі Беларусі і асобнага ўпраўлення, якія вялі б лінію фермерскіх гаспадарак і малых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў рэспублікі, аказвалі дапамогу ў набыцці насеннага, жывёлагадоўчага, племяннога фонду, арганізоўвалі збыт сельскагаспадарчай прадукцыі, вырашчанай фермерамі, насельніцтву рэспублікі.

**У. КСЁНЗ,**
**маёр КДБ.**
г. Рыга.

# 10 тон мяса «з паветра»

## Адрасы прадпрымальнасці



На Калінкавіцкім мясакамбінаце прыбаўку да 10 тон мяса ў месяц атрымліваюць, як гаворыцца, «з паветра». Гэта стала магчымым дзякуючы прымяненню новай тэхналогіі замарожвання. Яна распрацавана і ўкаранёна дырэктарам прадпрыемства Антонам Яфімавічам Гарбачом разам з вучонымі Кішынёўскага політэхнічнага інстытута.

Дарэчы, калісьці за праяўленую ініцыятыву Антон Яфімавіч, будучы тады галоўным інжынерам камбіната, ледзь не страціў займаемую пасаду. Сёння ж створаная ім у садружнасці з вучонымі тэхналогія адзначана Залатым медалём ВДНГ СССР, а Калінкавічы сталі пунктам правядзення ўсесаюзнага семінара па абмену вопытам.

Падлічана, што каб усе камбінаты рэспублікі прымянілі гэту тэхналогію, Беларусь мела б дадаткова каля 20 тысяч тон мяса ў год. А гэта ні многа, ні мала—гадавая прадукцыйнасць пяці буйных жывёлагадоўчых комплексаў.

**На здымках:** расфасаваная такім чынам прадукцыя прадпрыемства карыстаецца добрым попытам. На пярэднім плане — аператар Зінаіда **Куцэнка;** да дзвюх тон малочных сасісак у дзень выпрацоўваюць аператары-наладчыкі Мікалай **Іванчанка** і Сяргей **Нагайцаў.**



**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА. (БЕЛТА).**

# Саюз «ліквідатараў»

**У Мінску створаны і пачаў працаваць Беларускі саюз удзельнікаў ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Са старшынёй яго савета Г. Грабеннікам гутарыць журналіст В. Зданюк.**

**— Гары Цярэнцьевіч, вы адзін з ініцыятараў стварэння новага саюза чарнобыльцаў. Скажыце шчыра: верыце ў яго перспектывы? У рэспубліцы ж зарэгістраваны добры дзесятак падобных арганізацый. Ва ўсіх — шырокавяшчальныя праграмы, шчодрыя абяцанні дапамагчы пацярпеўшым ад радыяцыі. Але вось бяда: канкрэтных спраў мала...**

— Мяне ваша пытанне не здзівіла. У розных саюзах, асацыяцыях, фондах, аб'яднаннях, звязаных з вынікамі катастрофы ў Чарнобылі, недахвату няма. Модны гэта цяпер занятак — аб'явіць аб стварэнні якоганебудзь фонду, адкрыць рахунак у банку, завесці прэстыжны офіс, сустракацца з іншаземцамі... Некаторыя спрытныя дзеячы, палец аб палец не ўдарыўшы для таго, каб хоць чымнебудзь рэальна дапамагчы чарнобыльцам, зрабілі галавакружную кар'еру. Спекулюючы на чарнобыльскай трагедыі, яны атрымалі салідныя пасады, дэпутацкія мандаты.

А што змянілася за шэсць гадоў? Вельмі мала. На забруджанай тэрыторыі працягваюць жыць дзесяткі тысяч людзей. Дапамогі патрабуюць «ліквідатары»—удзельнікі ліквідацыі вынікаў ядзернай катастрофы.

## Вы прасілі расказаць

Наш саюз нарадзіўся не ад добрага жыцця. Людзям, якія пацярпелі ў барацьбе з радыяцыяй, надакучыла чакаць міласці ад саюзных і рэспубліканскіх улад і тых жа фондаў і асацыяцый. Будзем змагацца сваімі сіламі.

**— Хто ўваходзіць у ваш саюз?**

— Пераважная большасць членаў саюза—ваеннаслужачыя запасу, якія прымалі непасрэдны ўдзел у ліквідацыі вынікаў катастрофы. Такіх многа. Вось вам канкрэтная лічба. У чарнобыльскай зоне працавалі звыш 30 тысяч воінаў Беларускай ваеннай акругі. А колькі было прызваных з запасу! Прычым не толькі з нашай рэспублікі. Некаторыя атрымалі вялікія дозы апраменьвання, хварэюць. Ад іх праблем усюды адмахваюцца...

Цяпер мы збіраем банк даных на ўсіх «ліквідатараў». Хочам склікаць іх пад дах саюза, дапамагчы абараніць сацыяльныя і духоўныя інтарэсы. Работу саюза ўзначальвае савет.

**— Саюз «ліквідатараў»—рэспубліканская арганізацыя. Але ж на тэрыторыі Беларусі ў бітве з радыяцыяй удзельнічалі салдаты і афіцэры з усіх канцоў краіны...**

— Мы гэта прадугледзелі. Дзверы саюза адчынены ўсім «ліквідатарам» — дзе б яны ні жылі цяпер. Я сам амаль год прабыў у зоне і ведаю, што на вельмі цяжкіх участках працавалі прызыўнікі з Урала, з Сярэдняй Азіі. Гэтыя хлопцы рыдлёўкамі прыбіралі графіт з даху трэцяга энергаблока, валілі «рыжы лес», рабілі дэзактывацыю будынка самой станцыі. Заўсёды гатовы іх прыняць, выслухаць і дапамагчы. Ужо разаслалі свае запрашэнні па ўсіх рэспубліках.

**— Што ў бліжэйшых планах арганізацыі?**

— Хочам стварыць рэабілітацыйны цэнтр для «ліквідатараў». На багатых спонсараў не вельмі разлічваем. Спадзяёмся самі грошы зарабляць.

**— Людзі да вас ужо звяртаюцца?**

— Так, нягледзячы на тое, што нашаму саюзу ад роду ўсяго два месяцы. Вось сёння, напрыклад, прыйшло пісьмо. Прыслала яго маладая жанчына, маці дваіх дзяцей. Яе муж, прызваны з запасу для ўдзелу ў ліквідацыі вынікаў катастрофы, загінуў. Яна не ведае, што загінуў муж недарэчна, не ад радыяцыі—з-за ўласнай халатнасці. Між іншым, для яе гэта не мае істотнага значэння. Галоўнае, што яна страціла дарагога чалавека, а дзеці—бацьку... Жанчына скардзіцца, што пенсію ёй дзяржава ўстанавіла мізэрную. На парозе рынак, з маленькімі дзецьмі ёй вельмі цяжка... Аддаў пісьмо юрысту. Няхай разбярэцца. Калі закон парушаны — трэба аднавіць справядлівасць.

# Скарачэнне па... званках

Тэлефонны званок у Маларыту на стыку Беларусі, Украіны і Польшчы, прызнаюся, некалькі збянтэжыў. Даўно збіраўся ў госці да дэсантнікаў, марыў расказаць пра іх жыццё-быццё, а тут такі казус — скарачэнне, расфарміраванне падраздзялення. І не калі-небудзь, а літаральна днямі.

У разгубленасці папрасіў прабачэння ў камандзіра за турботы. Але потым, усё добра ўзважыўшы, падумаў, што варта напісаць пра гэта самае скарачэнне, аб тым, як успрынялі такую вестку ў Маларыце, што чакае жыхароў гарнізона ў будучым?

...Адшукаць гарнізон дэсантнікаў аказалася справай няпростай. У Маларыце ж знаходзіцца намінальна толькі жылы гарадок. А воіны жывуць у лесе, больш чым за дзесяць кіламетраў ад горада, і наш «уазік» шмат наездзіў па няпручнай лясной дарозе, перш чым упёрся ў зялёныя вароты з чырвонай зоркай...

На парозе штаба мяне чакалі два моцна збітыя афіцэры ў плямістай дэсантнай форме. Як аказалася, камандзір і зампаліт. Навіна, якую яны мне паведамілі ў чарговы раз, прымусіла здзівіцца: скарачэнне пераносіцца, як мяркуецца, на кастрычнік.

Па сумных тварах афіцэраў можна было здагадацца: змены, што іх чакаюць, — не з прыемных. Чаму? Пра гэта даведаўся ў гутарках з людзьмі.

...Дэсантнікі прыбылі ў Маларыту ў маі мінулага года з Паўднёвай групы войск. Зусім заканамерныя трывогі з выпадку новага месца дыслакацыі, на шчасце, не апраўдаліся.

Гарнізон (заўважу, самы аддалены ў Беларускай ваеннай акрузе) дэсантнікам увогуле спадабаўся: жыллё для сем'яў (хоць і не шыкоўнае) было, казарма для салдат і іншыя атрыбуты ваеннага гарадка — таксама. Немалаважна і тое, што мясцовае насельніцтва да перасяленцаў паставілася па-беларуску ветліва, з разуменнем праблем.

## Набалелае

Узважыўшы свае магчымасці, ацаніўшы мяркуемую дапамогу вышэйстаячага штаба і мясцовых улад, камандаванне гарнізона прыйшло да вываду: да вясны наступнага года ні ў жыцці, ні ў баявой вучобе праблем не будзе... Дадало ўпэўненасці ў гэтым і тое, што ў верасні адбыліся першыя на новым месцы скачкі дэсантнікаў.

Наўрад ці хто тады думаў, што яны стануць і апошнімі...

Скарачэнне.. Слова гэта дамоклавым мячом навісла над падраздзяленнем. Ні камандзір, ні зампаліт не змаглі дакладна назваць дату, калі яно ўпершыню прагучала ў гарнізоне. І не дзіўна: афіцыяльнай жа паперы зверху, падпісанай саліднай службовай асобай і змацаванай гербавай пячаткай, ніхто не бачыў. Былі толькі «афіцыяльныя тэлефонныя званкі». Па іх усё і рабілася: здаваліся баявая тэхніка і зброя, пераводзіліся ў іншыя часці салдаты і сяржанты...

Ёсць такі выраз са спартыўнай тэрміналогіі: трымаць сябе ў форме. Ён стасуецца і да ваенных, тым больш—да дэсантнікаў. Без рэгулярнай баявой падрыхтоўкі (а ў дэсантнікаў, хто ведае, яна больш чым інтэнсіўная) «блакітныя берэты» даволі хутка могуць згубіць доўгімі месяцамі набытыя якасці «армейскай эліты». Напярэдадні ж скарачэння падраздзялення баявая вучоба была зведзена да заняткаў палітычнай, страявой і фізічнай падрыхтоўкай разам з вывучэннем статутаў.

Наўрад ці могуць запісаць дэсантнікі сабе ў актыў тое, што з кастрычніка мінулага года па студзень гэтага разгружалі эшалоны ў пагранічных Брэсце і Гродна...

«Блакітныя берэты» як асабістую трагедыю ўспрымаюць вымушаны перавод у другі род войск. Нават трапіўшы ў пяхоту, упарта носяць на пунсовых пятліцах свае «крылатыя парашуты».

Але ў Маларыце людзі, што называецца, «дайшлі да ручкі» ў невядомасці і бяздзеянні. Усе гатовы ўвайсці ў састаў любой, няхай нават пяхотнай часці, у выглядзе, скажам, разведвальнага падраздзялення. Чаканне, туманная перспектыва, становяцца невыноснымі. Бадай, толькі гэтым можна растлумачыць тое, што звальняецца ў запас дэсантнік у росквіце сіл, трыццацідзевяцігадовы маёр Уладзімір Пятрухін. У яго, праўда, дзякуючы льготам (год за паўтара) усё ў парадку ў сэнсе жыццеўладкавання.

А што рабіць астатнім? Большасць жа афіцэраў падраздзялення—моладзь.

Сакратар партыйнай арганізацыі капітан Уладзімір Шынкарук перакананы, што большасць дэсантнікаў—аптымісты па натуры. Вунь нават у партыю ўступаюць, як капітан Файзула Гані-задэ або старшы лейтэнант Сяргей Губанаў (і яшчэ тры заявы ў партбюро ляжаць). З партыі ў гэты цяжкі момант пакуль што не выйшаў ніхто.

Але людзям усё цяжэй растлумачыць, чаму баявое падраздзяленне, укамплектаванае не самым горшым чынам, «вісіць у паветры», чаму ваенная рэформа, якая толькі пачалася, «рэжа па жывому», па лёсах людзей...

Калі па гарнізону папаўзлі першыя чуткі аб скарачэнні, камандаванне падраздзялення загадала: чуткі неадкладна спыніць, пакараць тых, хто іх распаўсюджвае...

Дэсантнікі — людзі дысцыплінаваныя, загады прывучаны выконваць. Але ж трэба і іх зразумець. Чаму наверсе, сказаўшы «а», не спяшаюцца сказаць «б»? Канешне, няма асаблівых праблем выкрасліць са штата нейкае там дэсантнае падраздзяленне. Толькі ж за штатнай адзінкай—жывыя людзі. Яны хочуць ведаць, што чакае іх заўтра. Ці не пара сказаць ім пра гэта сёння?

**Святаслаў АСІНОЎСКІ,**
**ваенны журналіст.**

